Opłata przesyłkowa opłacona ryczałtem.

№ 5 (7). Субота 30-га Чэрвеня 1928 г. м. Вільня. Год II.



# Б[illegible]арускі
# Радны

[...]рыядычная часопісь па самаўрадавым справам нашага краю.

| | | |
|---|---|---|
| [...]я і АДМІНІСТРАЦЫЯ: [...]Ѳ, Zawalna 6–5. [...]лефон 14-35. | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: За 3 месяцы . . . . 2 зл. 1 нумар . . . . . . 50 гр. | АБВЕСТКІ ПА УМОВЕ. |

## На перададні новага закону аб самаўрадах.

Канстытуцыя Польскай Рэспублікі 17. III. 1921 г., залажыўшы шырокія, трывалыя дэмакратычныя падставы пад дзяржаўны гмах новаадбудаванай Польшчы, указала толькі тыя агульныя рамы, у якіх павінна улажыцца вольна разьвіваючаеся жыцьцё краю.

Але канстытуцыя, задэкляраваўшы непахільна збор гэтых аснаўных законаў дзяржавы, сама ня толькі прадбачыла, але і наказала выразна далейшае арганічнае, як кажуць, заканадаўства ў дадзеных рамах. Больш таго,—канстытуцыя ўказала нават точна азначаныя тэрміны, у якія павінны былі быць ужо апрацаваны і прыняты найважнейшыя арганічаныя законы у разьвіцьцё ды ажыцяўленьне аснаўных прынцыпаў канстытуцыі.

Бо-ж ясна, што без такіх арганічных, дакладна нармуючых жыцьцё законаў, указваючых ясна і бяспрэчна правы і абавязкі грамадзян і органаў улады ў тэй ці іншай галіне жыцьця і грамадзкай працы, усе дэкляарацыйныя загады канстытуцыі астаюцца толькі пекнымі „пажаданьнямі“. А няма, можа, на сьвеце горшай рэчы, як пекныя словы ды „ідэалы“, якія не абязываюць да суадказных чынаў!

Паміж іншымі галінамі шматбаковага жыцьця, патрабуючага нармаваньня арганічне заканадаўства, канстытуцыя асаблівую ўвагу зьвярнула і на самаўрады, наказаўшы выразна апрацаваньне ў гадавым тэрміне новага самаўрадавага закону (арт. 3, 65—73 і 126).

І вось, першы наш Сойм у працягу амаль што не 4 гадоў працаваў над гэтай, нажаль, аказаўшайся для яго непасільнай задачай. Мы ня маем тугака патрэбы даваць падрабязны агляд усей гэтай бязсільнай працы папярэдняга Сойму над самаўрадавымі законапраэктамі, якія так і ня вышлі з камісыяў,—сьцьвярджаем толькі вельмі важны і характэрны факт бязсільля таго Сойму выраішыць задачу стварэньня такога закону аб самаўрадах, які з аднага боку адказываў-бы загадам дэмакратычнай канстытуцыі рэспублікі, а з другога боку адказываў бы і фактычнаму суадносіньню сацыяльных сілаў у краі на мясцох і ў цэнтры.

Сойм першага сазыву, як і твораныя ім урады, усё больш адыходзілі ад народных масаў, якіх галасамі яны былі пакліканы да ўлады, усё больш трацілі побач з тым і веру у розум і добрую волю гэтых масаў, душачы ўсё больш волю і самадзейнасьць народу. Эндэцкі дух, панаваўшы як у Сойме, так сама і ува ўсіх урадах да пераваротy, рабіў немагчымым нават мінімальнае даверра да няпольскага насяленьня нашых „крэсаў“, згары адпіхаючы іх ад усялякага супрацоўніцтва з польскай уладай у тварэньні супольнага грамадзкага жыцьця і дабрабыту ў краі. Ідэальная канстытуцыя ўсё далей разыходзілася з рэальным жыцьцём і практыкай „дзяржаўнай“ палітыкі ў краі. Ясна, што ні аб якім прадбачаным канстытуцыяй арганічным заканадаўстве ў дзяржаўным цэнтры рэспублікі, адказваючым духу і літэры канстытуцыі, не магло быць ніякай мовы.

Як найбольш красамоўны прыклад гэтай прынцыповай супярэчнасьці, напомнім бязплодныя высілкі папярэдняга Сойму—ад знамянітых „кернікаўскіх“ законапраэктаў часоў „хіенапяста“—1923 г. да кампрамісаў „соймавай пяцёркі“ апошніх дзён папярэдняга Сойму—выраішыць хаця-б задачу „роўнасьці“ ў выбарным законе для вясковых гмінных самаўрадаў.

Калі кернікавыя праэкты з чыста „хіенапястоўскім“ адкравенным цынізмам прапанавалі

„для аховы польскай дзяржаўнасьці на крэсах“—„роўнасьць“... аднаго паляка чатыром беларусам, дык, можа, ня так ужо далёка адыйшоў ад свайго „першаўзору“ і той „кампрамісавы“ праэкт, які ўсё-ж ніяк ня мог вылупіцца з свайго „камісыйнага яйка“ улетку мінуўшага году перад самым канцом папярэдняга Сойму...

Другая ня менш важная і цяжкая задача, якую ніяк ня мог вырашыць у духу канстытуцыі папярэдні Сойм, гэта знайсьці ды замацаваць у законе нармальную—ў самаўрадавай працы на мясцох—раўнавагу волі мясцовага насяленьня і ўплыву органаў цэнтральнай улады, раунавагу, якая-б ня душыла, але тварыла самастойнае культурнае і адміністрацыйна-гаспадарчае жыцьцё на мясцох, не адпіхаючы яго, але наадварот—зьвязываючы яго з агульна-дзяржаўным жыцьцём краю. Гэтае пытаньне аб практычнейшым размежаваньні ўлады гэтых двух чыньнікаў — самагаспадарчага мясцовага насяленьня і наглядаючай дзяржаўнай улады,—галоўная задача арганізацыі самаўрадаў на ўсім сьвеце. Ясна, што гэтая задача ня можа быць практычна вырашана гатовымі шаблонамі, аднолькавымі для ўсіх краёў і народаў. Трэба яе вырашыць так, каб створаны закон даваў чым больш шырокае ды вольнае поле для практычнай творчай працы, а чым менш выклікаў спораў з-за ўлады, ці — „палітычнай“ барацьбы паміж гэтымі двумя чыньнікамі — мясцовым і цэнтральным.

Трэба заўсёды памятаць, што вырашэньне гэтай задачы залішне на карысьць адміністрацыйнай наглядчай ўлады вядзе, можа, найхутчэй да патрэбных у даны мамэнт даразных тымчасовых мэтаў, патрэбаў ды карысьцяў дзяржаўнай ўлады, запэўняючы загадам яе органаў на мясцох —„скарастрэльнае“— як па ваеннай камандзе,—выкананьне, але такая па сутнасьці бюрократычная гаспадарка у „самаўрадах“, прывучаючая насяленьне да бязчыннасьці ды раўнадушша да свайго ўласнага грамадзкага жыцьця, зьяўляецца найгоршым руйнаваньнем усялякай самадзейнасьці насяленьня, руйнаваньнем самаўрадаў. Самаўрады, як слушна ўказаў слаўны польскі вучоны праф. Яворскі, толькі трацяць тады ўсю сваю сутнсьць і сэнс, пертвараючыся ў „тую ці іншую форму дзейнасьці цэнтральнай адміністрацыі ў краі“.

Найгорш, калі гэткая залішняя перавага органаў цэнтральнай ўлады у самаўрадах над самадейнасьцяй мясцовага насяленьня, маючая нахіл пертвараца у сталую біуракратычную апеку ды самаволю, дыктуецца нездаровымі матывамі нацыяналістычнай ці вузка-клясовай палітыкі. Асабліва гэтая небясьпека пагражае нашаму краю, дзе матывы дзяржаўна шкоднага нацыяналізму так „натуральна“ злучаюцца з матывамі вузка-клясовага эгаізму, бясьпынна дражнючы ды сваручы узаемна розна-нацыянальныя „вярхі“ і „нізы“. Ці-ж трэба паўтараць, як далёка завяла ужо наш край такая „палітыка нацыялізму і клясовасьці“ па шляху развалу...

Дык трэба з гары рашуча сказаць, што ўсе такія „нацыяналістычна—клясавыя матывы“, уся такая „палітыка“—павінны быць цалком адкінуты з меркаваньняў пры апрацаваньні новага датасаванага да практычных патрэбаў жыцьця самаўрадавага закону. Калі паміж насяленьнем краю і палітычным цэнтрам дзяржавы ёсьць якія палітычныя споры ды парахункі, дык хай яны вырашаюцца сабе дзе інш — у партыйнай ці парлямэнцкай барацьбе, але ня ў самаўрадах!

Самаўрадавы закон павінен знайсьці найлепшыя, найпрутчэйшыя, вольныя формы мірнага, спакойнага, згоднага супрацоуніцтва мясцовага насяленьня з органамі дзяржаўнай ўлады, гарантуючы першаму заправўдную самастойнасьць. Бо толькі на гэтай самастойнасьці народу можна пабудаваць у нашыя часы заправўдную сілу і трывласьць дзяржавы. Бо аб тэй-жа самастойнасьці народу, як „вярхоўнага валадыра польскай рэспублікі“, кажа арт. 2 нашай канстытуцыі.

Як ведама, урад марш. Пілсудзкага, не чакаючы, пакуль „соймавая пяцёрка“ скончыць свае спрэчкі над законапраэктам, правёў выбары ў самаўрады паводле старога закону—дэкрэту Начальніка Дзяржавы 4—II 1919. Ясна, што гэты закон 1919 г. ня можа суадказваць прынцыпам Канстытуцыі 1921 г., дык загад канстытуцыі ўсьцяж астаецца нявыкананым. Але выбары зроблены. Дэкрэт 1919 г., узораваны на дэмакратычным законадаўстве Расейскай рэспублікі 1917 г., дае значныя правы мясцоваму насяленьню. Здабыла шмат мандатаў і пляцовак на яго падставе ў самаўрадах нашага краю і беларускае сялянства. Паміма ўсялякіх іншых карысьцяў — адчыніліся перад беларускім сялянствам магчымасьці працаваць над культурна-гаспадарчым уздымам краю,—перад нашымі раднымі і ўсімі іх выбаршчыкамі ў краі ў звязку з маючай ў хуткім часе распачацца працай над стварэньнем новага самаўрадавага закону стаіць вялікай вагі чарговая задача.

Да часу, калі ў Сойме стане на чаргу дня ізноў праэкт закону аб самаўрадах, і Сойм у супрацоўніцтве з урадам пачне, шукаючы указанай вышэй роўнавагі між воляй мясцовага насяленьня і дзяржаўнай уладай у самаўрадах, адмерываць у законе меру для сілы і самастойнасьці мясцовага насяленьня, трэба нам даць Сойму і ураду ужо такія бязспрэчныя і нязьбітыя доводы нашай самаўрадавай дасьпеласьці да самастойнай адміністрацыйна-гаспадарчай і культурнай працы, каб прадстаўнікам народу ў Сойме было лягчэй дамагацца ў новым законе скасаваньня шкоднай апекі над самаўрадам з боку ўлады, слушна даўшы найбольшую меру самастойнасьці для мясцовага насяленьня. Асабліва-ж важна паказаць усю сваю дасьпеласьць у цэлым сэнсе нашага беларускага сялянства, да гаспадарчага розуму ды грамадзянска-дзяржаўнай добрай волі да якога так мала мела

даверра дагэтуль польскае грамадзянства і дзяржаўная ўлада ў Польшчы.

Дык на гэтае зусім асаблівае значэньне гэтага першага „спробнага году“ *) працы нашага новага сялянскага прэдстаўніцтва ў самаўрадах мы зьвяртаем асаблівую ўвагу.

*) П. мін. унутр. спр. у сваей прамове 10—V у бюдж. кам. заявіў, што „правядзеньне новага камунальнага ладу., ня дасца зрабіць у вельмі шпаркім тэмпе“. Дык можа пройдзе і не адзін год „спробны“.

Ад нас саміх у значнай меры будзе залежыць, ці новы самаўрадавы закон—у кару за нашу бяздзейнасьць ды безраднасьць—захавае на далей адміністрацыйную апеку над нашымі самаўрадамі, пераварыўшы яго ў слаўны „самаўрад пана старосты“,—па думцы Керніка і кумпаніі,—ці наадварот—дасьць нам добры запраўдны самаўрад, як і дзе інш на сьвеце, дзе народ сваей самадзейнасьцяй, гаспадарнасьцяй, розумам і працай заслужыў на гэта.

# Дзеяльнасьць Ураду ў галіне Самаурадаў.

У бюджэтнай Камісіі Сойму Міністр Унутраных Справаў гэн. Славой-Складкоўскі выгласіў прамову, значная частка якой была пасьвечана справе аб самаўрадах. Між іншым ён сказаў, што Урад адчувае патрэбу ўвядзеньня новага самаўрадавага закону, але ёсьць шмат перашкодаў, якія не пазваляюць здзейсьніць гэта ў хуткім часе. І гэта ня толькі так у нас. У Баварыі, напрыклад, закон аб гмінных самаўрадах, выданы ў 1869 г., стаў на дзенны парадак толькі ў 1919 г. пасьля рэвалюцыі, а быў аканчальна выпрацованы толькі ў 1927 г. Прусія працуе над гэтым пытаньнем з 1918 г. і да гэтай пары яшчэ не закончыла сваей працы.

Цяперашні Урад добра разумее патрэбу вырашэньня гэтага пытаньня. Але да гэтага часу ня меў юрыдычнай магчымасьці здзейсьніць. Дзеля гэтага Урад імкнуўся ў граніцах істнуючай сытуацыі і сваей магчымасьці ўзмоцніць самаўрады з боку праўнага і гаспадарчага.

Дзеля гэтага першым заданьнем Ураду ў мінуўшым часе было правядзеньне выбараў да самаўрадаў. На абшары усходніх ваяводзтваў з 65 гарадоў нармальны стан, г. ё. местовыя рады, выбраныя на падставе загаду Zarządu Cywilnego Ziem Wschodnich, маюць толькі 18. З рэшты ў 47 местах нармальны лад уведзяны ў 1927 г. на падставе загаду, апублікаванага ў траўні.

У сельскіх гмінах гэтак сама адноўляны склад прадстаўнікоў на падставе загаду Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель і часовага закону аб выбарах да гмінных радаў. Затым дакананы на гатым абшары выбары да соймікаў і гмінных радаў.

Адноўлянаму Ураду належала даць і адноўляныя сьродкі дзеяньня. У першую чаргу размова ідзе аб сьродках матэр'яльных, якія рэгуляваліся законам з 1923 г. Хаця ўсе чыннікі згаждаюцца з тым, што гэты закон не адпавядае патрэбам, але гэта рэформа ня можа быць дакананa без рэформы падатковай сыстэмы Дзяржавы, а гэта апошняя была немагчыма ў часе ўпаважненьня Ураду.

Гэта было дакананa загадам Прэзыдэнта Рэспублікі ад 1 чэрвеня 1927 г. і 22 красавіка 1928 г. Узьнікалі зусім слушныя нараканьні на тое, што платнікі камунальных падаткаў ніколі ня ведаюць, калі і колькі трэба ім плаціць камунальных падаткаў. У навэлі ад 22.III.1928 г. ёсьць цыркуляр, што гмінныя рады павінны ў працягу 2-х першых месяцаў бюджэтнага году акрэсьліць усе камунальныя падаткі і аб гэтым паведаміць платнікаў.

Затым балючым было пытаньне аб урэгуляваньні, хто павінен пакрываць выдаткі на будову і ўтрыманьне павятовых інстытуцыяў, як шпіталі, прытулкі і інш. На падставе ўказаных загадаў Прэзыдэнта Рэспублікі павятовыя камунальныя хаўрусы маюць права прыцягваць да ўдзелу ў гэтых коштах меставыя гміны.

З іншых пытаньняў, урэгуляваных гэтымі паветамі, трэба адцяніць стварэньне камунальнага пазычковага фонду, які складаецца з пабіраньня 10 проц. належачых хаўрусам і падзеляных Міністэрствам Унутраных Справаў дадаткаў да дзяржаўных падаткаў ад спажыцьця ці прадукцыі. З гэтага фонду выдаюцца слабым грашова камунальным хаўрусам нізка апрацэнтаваныя пазыкі. А пасьля некатарага часу, калі фонд досягне 8 міл., з атрыманых працэнтаў будуць выдавацца камунальным хаўрусам беззваротныя запамогі. Да 1 красавіка б. г. камунальны фонд узрос да 1.990.267 зл. 66 гр. З гэтай сумы выдана пазык на суму 710.000 зл.

Але зусім зразумела, што сьродкі матэр'яльныя ня могуць абмяжавацца толькіаднымі падаткамі Цікавыя даныя адносна грашовых патрэбаў гмінных хаўрусаў для будаўніцва ў канцы мінуўшага году дала анкэта: гэтая сума акрэсьляна ў 4 мільярды зл. На гэтую суму яны маглі-бы задавольніць у працягу10 г. усе пільнейшыя патрэбы. Гэта анкэта будзе падрабязна абгаворана і навучна апрацавана, а пакуль служыць матэр'ялам для пазычковай акцыі, якая вядзецца пры посрэдніцтве Banku Gospodarstwa Krajowego.

У апошні час Bank Gosp. Kr. значна разьвіў сваю пазычковую дзеяльнасьць на карысьць камунальных хаўрусаў. У 1925 г. выдаў толькі дзьве пазычкі на суму 1.690.000 зл., у 1926 г. — 6 пазычак на 1.830.000 зл., у 1927 г. да 30 чэрвеня — 46 пазычак на 11.326.000 зл., разам 54 паз. на суму 14.846.000 зл. Ад 1 ліпня да канца 1927 г. Bank Gosp. Kr. выдаў 192 доўгатэрміновыя пазычкі на суму 72.039.900 зл., а ў першы квартал 1928 г. — 78 пазычак на суму 25.530.000 зл., а ўсяго за гэты час — 270

пазычак на суму 96.569.900 зл. Усяго B. G. Kr. за 1927 г. і першы квартал 1928 г. — 424 пазычкі на суму 117.048.900 зл.

Адначасова выдаваў камунальным хаўрусам пазычкі і Państwowy Bank Rolny, якія дасягнулі ўжо сумы 29.047.000 зл. Акцыя гэтых дзяржаўных пазычковых інстытуцыяў разам з дзеяльнасьцю іншых пазычковых банкаў значна ўскорылі тэмп дзеяльнасьці камунальных хаўрусаў.

Затым у арганізацыі камунальнага крэдыту шмат памог загад Прэзыдэнта Рэспублікі ад 13 красавіка 1927 г. аб камунальных касах ашчаднасьці. Дзякуючы гэтаму вытварыліся адпаведныя рамы для разьвіцьця камунальных касаў ашчаднасьці, якія той час пачалі памысна разьвівацца.

Вельмі карысная аказалася і новая форма арганізацыйная, вытвораная загадам Прэзыдэнта Рэспублікі ад 22 сакавіка 1928 г. аб камунальных хаўрусах. На падставе гэтага загаду зьявілася магчымасьць выкананьня такіх заданьняў, якія немагчыма было-бы выканаць паасобным камунальным адзінкам, як будова шляхаў, мэліярацыя, элэктрафікацыя, будова вадакачак, заводаў, дамоў для сірот і старцаў, дастава будаўляных матэр'ялаў, шпіталяў, тэхнічных школаў і г. д.

Нарэшце яшчэ трэба адцяніць загад Рады Міністраў ад 7 сакавіка 1927 г. аб стварэньні пры міністры Унутраных Справаў Дзяржаўнай Самаўрадавай Рады, як дарадчага органу па пытаньнях тэрытор'яльнага самаўраду. Стварэньне гэтай рады дала магчымасьць устанавіць цясьнейшы контакт між дзяржаўнымі ўладамі і самаўрадамі. Яна адбыла тры паседжаньні ў 1927 г. У бліжэйшы час будзе склікана для выслуханьня апініі па актуальных камунальных проблемах, між іншым і камунальных фінансах.

Адсюль відаць, што цяперашні Ўрад усьцяж унікае ўва ўсе патрэбы самаўрадаў, якім па меры магчымасьці стараецца памагчы. А калі яшчэ шмат чаго ня зроблена, дык гэта тлумачыцца тым, што наш самаўрад ня мае апоры ў уласных нацыянальных і дзяржаўных традыцыях, як у Нямеччыне ці іншых адналітых дзяржавах, а зьяўляецца вытворам узаемна чужых і непагоджаных станаў 3-х складкавых часткаў Дзяржавы, забораў Нямецкага, Аўстрыйскага і Расейскага.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Праблема мэліярацыі на Віленшчыне.

Ня трэба быць спэцыялістам дасьледчыкам тапаграфіі нашае Бацькаўшчыны, ня трэба доўга шукаць статыстычных даных аб распрадзяленьні грунтаў па іх годнасьці для культур, — досыць толькі праехаць некалькі станцыяў жалезнай дарогай па Віленшчыне, каб пераканацца, што вялізная частка зямельнага абшару яе сяньня ляжыць пусткай. Багны, балоты цягнуцца месцамі аграмаднымі абшарамі, на якіх рэдка дзе кідаецца воку рэдзенькі сасоньнік, альбо зеленяюцца сітнікі, сіўцы і іншыя сапутнікі забалочаных грунтаў.

Часта гэтыя балоты, ня маючы сельска-гаспадарчай вартасьці і будучы параскіданы па ўсіх кутках нашае Бацькаўшчыны, ствараюць ня спрыяючыя ўмовы для камунікацыі і гэтым перашкаджаюць поступу і прагрэсу.

Клясычны край балот—Беларусь ад прысутнасьці гэтых-жа самых балот нясе людкасьці хваробы, як каўтун, малярыю, рэуматызм і іншыя.

Калі да гэтага дадаць, што наш край ёсьць сяньня выключна земляробскі і такім мае імкненьне астацца, калі ўзяць пад ўвагу, што пры няспрыяючых глебавых і кліматычных умовах наш земляроб ня можа атрымаць са свае ральлі таго зыску, які атрымлівае яго сусед паляк на Памор'і ці украінец — сум агортвае душу і думка б'ецца, шукаючы выхаду з гэтых складаных абставін.

Дзе выхад?

Яшчэ да Вялікае Эўрапейскае Вайны царскі урад зьвярнуў ўвагу побач з Палесьсем і на Віленшчыну. Быў апрацаваны шырокі плян асушкі балот, правясьці ў жыцьцё які ня ўдалося дзякуючы вайне і разрусе на фронце. Прашлі часы, балоты месцамі заваёўвалі сабе новыя абшары. Распалітыкаванае грамадзянства бачыла ратунак толькі ў зямельнай рэформе паводле партыйнага рацэпту, а урад палком заняты ўнутранымі клапотамі, мала зьвяртаў увагі на далёкую Віленшчыну. Нарэшце гукнулі на вуліцах Варшавы у траўні 1926 г. гарматы, якія ачысьцілі хваравлівую атмасфэру. Нова пазваны да аздараўленьня палітыкі і гаспадаркі Дзяржавы Урад зразумеў актуальнасьць зямельнай рэформы не ў партыйным, а дзяржаўным маштабе. Трэба было знайсьці новыя абшары зямлі для ўсё ўзрастаючага ліку насельніцтва. Ізноў успомнілі пра так званыя „усходнія крэсы", пра іх абшары і балоты. Распачаліся прыгатаўчыя работы для асушкі багн, на што Урад пашоў з тэхнічнай і фінансовай дапамогай.

Земляробскі Банк (Bank Rolny) удзяляе мэліярацыйным таварыствам пазычкі да 100 проц. каштарысу пры сплаце яе ў працягу 8 гадоў і пры апрацантаваньню ў проц. (5 проц. урадавых і 1 проц. на карысьць Банку). Для самаўрадаў тэрмін сплаты пазычкі прадбачыцца павялічаным.

Да чаго-ж могуць надавацца асушаныя балоты і багны?

Дасьледы над культурамі на балотах яскрава паказалі, што тут з пасьпехам могуць

расьці амаль ня ўсе сельско-гаспадарчыя расьліны, калі гаспадарка на балоце будзе вясьціся так, як таго вымагае навука.

Усю разнастайнасьць нявыгадных зямель Беларусі можна прывесьці да наступных двёх аснаўных катэгорыяў: 1) балоты зялёныя альбо пярвічнай фармацыі, бяз торфу і 2) балоты паўторнай фармацыі з торфам, тарфянікі.

Першыя пасьля асушкі робяцца ўгодзьдзямі, якія могуць быць скарыстаны пад лугавую, палявую культуру, а нават і агародніну, а другія тарфянікі апрача скарыстаньня іх пад паказаныя культуры, — зяўляюцца яшчэ рэзэрвуарам мэханічнае энэргіі, угнаеньня мінэральных грунтаў, крыніцай матэр'ялу для мэханічнай перапрацоўкі і ўжываньня з тэхнічнымі мэтамі. Гэткае разнастайнае скарыстаньне мэліараваных балот і наагул пусткаў — пры вострым зямельным голадзе, які адчувае Беларускі Народ, абязвае ўсё мысьлячае нашае грамадзяства фарсіраваць мэліарацыйнае будаўніцтва і ісьці тут на дапамогу Ураду.

Мы—беларусы, ў асобах радных мусім стаць праваднікамі культурнага і гаспадарчага адраджэньня нашае вёскі, мусім зразумець вялізарную важнасьць мэліарацыі на Беларусі і ўзяць на сябе ўсе труднасьці і адказнасьць гэтае задачы, і шляхам стварэньня мэліарацыйных таварыстваў з дапамогай Ураду выявіць сваю нязломную волю да змаганьня з балотамі і багнамі нашае Бацькаўшчыны. Мэта яскравая. У гэтым задатак да шляху дабрабыту і заможнасьці нашага Краю.

П.

## Калі касіць сена?

Досьлед паказаў, што добрае сена зьяўляецца падставаю карыснай гадоўлі статку, бо карова дае больш малака, конь мацнее, цяляты і жарабяты хутчэй растуць і наагул уся жывёла ёсьць здаровая і больш вытрывалая процi хваробаў. Добрае сена можна мець толькі з добрай сенажаці, але час касьбы і спосаб сушкі маюць гэткае-ж значэньне, як і якасьць травы і дагляд за сенажацьцю. Дзеля гэтага трэба зварачваць асаблівую ўвагу на сваячасную касьбу і належную ўборку сена.

Трава найбольш пажыўная тады, калі пачынае квітнуць. У гэты час сокі праходзяць па цэлай расьліне і трава зьяўляецца найбольш пажыўнаю, бо завязваецца насеньне. Калі насеньне завяжацца і пачне сьпець, тады ўсе сокі з быльля і лісьцяў пераходзяць да кветак на тварэньне насеньня. Адквітшая трава робіцца цьвёрдаю, мала страўнаю і не мае вялікай вартасьці. Дзеля гэтага трэба касіць траву на сена ў той час, калі яна пачне квітнуць і найпазьней, калі знаходзіцца ў поўным квеце. Гэта адносіцца да ўсіх расьлін, з якіх павінна атрымацца сена. А дзеля таго, што на сенажаці растуць травы, якія квітнуць не ў адзін час, дык трэба пачынаць касьбу тады, калі большасьць травы пачынае квітнуць.

Якасьць сена залежыць гэтак сама і ад спосабу яго сушкі. Пры сушэньні на пакосах дажджы вымываюць са скошанай травы пажыву, а пры сушэньні ў сухую дзякуючы пэратрасаньню сьціраюцца і трацяцца лісты і кветкі. Застаецца толькі быльлё, а пажыўныя часткі трацяцца. Каб асьцерагчы сена ад шкоды, якая прычыняецца дажджом ці ад аціраньня кветак і лісьцяў, трэба сушыць скошаную траву на козлах. Тады трава хутка сохне, дождж ей ня шкодзіць, ня вытрасаецца і захоўвае ўсе пажыўныя часткі. Трава сушаная на козлах нават у вільгаці не дае стухлага і сплесьвіўшага сена.

## Калі касіць канюшыну.

(З уласнае практыкі)

У мінулым годзе, калі я касіў канюшыну, дык пакінуў кавалачак (5 кв. саж.) някошанай і скасіў гэту канюшыну пазьней, каб даведацца, як адбіваецца позны скос на атаву. Скасіў гэты кавалачак пазьней толькі цераз тыдзень. Для параўнаньня пры першым скосе я выдзяліў такую самую дзялянку (5 кв. саж). На гэтай дзялянцы я сабраў атавы 28 ф, а на дзялянцы, што касіў першак пазьней — 10ф.

Гэты досьлед яскрава даказвае карысьць раньняга першага скосу канюшыны.

## Як лепш сушыць канюшыну.

Сушка і прыборка канюшыны патрабуюць шмат часу. У сувязі з гэтым шмат селян сушаць канюшыну як сена і выціраюць шмат лісьця і кветак, гэтых найкаштаўнейшых частак канюшыны.

Канюшыну трэба сушыць такім спосабам, каб яна не абціралася і сушка яе не вымагала шмат часу.

Звычайна пасьля скосу трэба, каб канюшына паляжала ў пакосах дзень, пры дрэннай пагодзе — два дні. Пасьля гэтага канюшыну трэба павярнуць і праз гадзіны 3-5 сабраць у копы.

Копы трэба складаць ня больш 8-мі пудоў. Праз два дні копы трэба пераклaсьці і даць ім яшчэ паляжаць дні 3-4, а потым звазіць у гумно.

Пры такой сушцы канюшына добра вяне і сохне, а галоўнае—лісьцё і кветкі не абвальваюцца. Канюшына мае зялёны колер, хаця зьверху коп ня многа і пажаўцее, што сена ня псуе.

*Селянін Шматпалёўнік.*

## Як уберагчы гусянят ад дохлі.

Маладыя гусяняты найчасьцей дохнуць у гарачую пару лета, што прыпадае на чэрвень і ліпень месяцы. Чым лета стаіць гарачэй, тым больш прападае ад дохлі гусянят. Захварэўшае гусянё апускае крыльлі, ходзіць як п'янае, пішчыць, лапы і дзюба бялеюць, астаецца ад гурту і нарэшце здыхае.

Ведама, што у нас на вёсцы гусей заганяюць у маленькі хлявок, дзе яны ноччу выпаражніваюцца ад калу, у якім ад хворых гусей разьвіваюцца мікробы, ад якіх заражаецца увесь хлеў.

Вось, каб захаваць здаровых гусей ад хваробы, абавязкава трэба кожны дзень гусячы гной пасыпаць паленай вапнай, або змываць карболкай, а лепш за ўсё гусей нанач пакідаць на дварэ і кожны дзень гной чыста зграбаць, а падворак, дзе сядзелі хворыя гусі, пасыпаць вапнай і торфам. Калі у гэты час гусянё захварэе, то яго зараз-жа трэба адлучыць ад здаровых.

П.

### Як ашчадзіць малако ад кісьладзі.

У некатарых гаспадынь малако вельмі хутка кісьне. У гарачыя дні яно не стаіць доўга салодкім і скісае за некалькі гадзін, а на'т здараецца, што яно скісае па дарозе да рынку і дзеля гэтага яго ніхто ня хоча купляць. Ці здараецца і так, што яно выглядае салодкім, але як толькі паставяць на вагонь, зьбягаецца.

Кісласьць малака ёсьць зьявішча арганічнае і выклікаецца бактэрыямі, якія знаходзяцца ў паветры. Яны падаюць да малако, тут хутка размнажаюцца і перарабляюць цукар у малочную кісласьць. Як толькі гэтай кісьладзі зьбярэцца шмат, тады малочны бялок сьціскаецца і малако робіцца зусім кіслым.

Каб малако хутка ня кісла, трэба дбаць аб найбольшай чыстаце. Карову і хлеў трэба трымаць у чыстаце, бо калі яны ня чыстыя, дык малако ня толькі хутка кісьне, але прыймае іншы коляр і няпрыемны пах. Дзеля гэтага карову трэба часьцей чысьціць, а хлеў праветрываць. Начыньне, у якое доіцца карова, павінна быць сухое і чыстае, а першыя каплі малака трэба здаіць да другога начыньня. Выдаянае малако трэба зараз-жа астудзіць, бо ў цёплым хутка размнажаюцца бактэрыі. Астудзіць можна ў халоднай вадзе, калі цеплата малака панізілася да 15-оС, а на'т і ніжэй.

Затым усялякая нячыстасьць спрыяе кісласьце малака. Малако трэба працадзіць праз густое, чыстае палатно, каб было чыстае, бо ў чыстым стане даўжэй пратрымаецца салодкім, чым у брудным. Трымаць малако трэба ў халодным мейсцы і ня вельмі ў высокім начыньні. Малако, якое трымаецца ў нізкім начыньні, смачнейшае, бо праветрываецца. Калі хочаш ухаваць малако ад мух, дык ня трэба накрываць яго крыжкаю, бо тады яно атрымлівае няпрыемны смак і хутчэй кісьне. Дзеля гэтага трэба пакрываць рэдкім палатном. Чыстата, сьвежае паветра і холад—лепшыя варункі для перахаваньня малака даўжэйшы час у салодкім стане і больш карысным і смачным.

## Самаўрадавая хроніка.

— **Выбары дэлегатаў да Ваяводзкай Рады.** 20-га чэрвеня адбылося паседжаньне павятовага аддзелу Дзісьненскага Соймiку, на якім былі дакананы выбары дэлегата да Ваяводзкай Рады. Дэлегатам выбраны п. Пётр Юзэфовіч. Дзеля заканчэньня выбараў дэлегатаў першае арганізацыйнае паседжаньне Ваяводзкае Рады адбудзецца ў бліжэйшыя дні.

— **Памешканьні для ваенных.** Ваеннае Міністэрства выдала загад, на падставе якога афіцэры і „завадовыя" пад'афіцэры, ня маючыя сталых памешканьняў і калі ня могуць наняць дзеля адсутнасьці гэткіх у даным гарнізоне ці вельмі высокай цаны, маюць права зварачвацца праз адносную камандатуру да гмінных самаўрадаў з жаданьнем прадастаўленьня ім памешканьня з платаю, акрэсьлянаю ў адпаведным загадзе Рады Міністраў. Плаціць за іх камандатуры гарнізонаў у суме і спосабе, акрэсьляным загадам Рады Міністраў.

— **Пазыка для Баранавіцкага Соймiку.** Баранавіцкі Соймiк урэшце атрымаў з Камунальнага Банку даўно чаканую пазыку у разьмеры 100.000 зал. Пазыка гэтая бадай ўся пойдзе на будову новых дарогаў у Баранавіцкім павеце.

— **З Лідскага Соймiка.** 23 чэрвеня адбылося паседжаньне павятовага аддзелу Лідзкага Соймiка, на якім абгаварывалася справа выбараў сябры да Ваяводскай Рады.

— **З Стаўпецкага соймiка.** Соймік Стаўпецкага павету пастанавіў пазычыць у Банку Краёвае Гаспадаркі 40 тысячаў доляраў на мэты, зьвязаныя з палепшаньнем камунікацыі у павеце. Апрача гэтага Соймік пастанавіў пазычыць 25000 залатых на расшырэньне цагэльні і бэтанярні і 40 тысячаў зал. на абаротны капітал для гэтых прадпрыемстваў, належачых да Сойму.

— **Выбары войта Нехневіцкае гміны Навагрэдзкага павету.** 16 чэрвеня б. г. абылося паседжаньне Гміннае Рады Нехневіцкае гміны, на якім былі выбраны войтам гр. Гура (дасюлешні войт), заступнікам войта Яфім Болска, а сябрамі павятовага Соймiка—гр. Людвік Майхер і Станіслаў Кубас.

— **„Маладэчанскі календар".** на 1928 г. У пачатку чэрвеня Маладэчанскі Соймік выдаў „Маладэчанскі календар на 1928 г.". Гэта ёсьць злучэньне календароў „Rolnik Polski" і „Informator Molodeczański". Кніжка мае 155 старонак друку. Календар гэты разасланы па ўсіх гмінах у павеце.

— **Паўстаньне новае фабрыкі.** У Альбертыне (каля Слоніма) адчынілася новая паперня, якая ўжо выробляе 6 тоннаў паперы у дзень і на якой працуе кала 100 работнікаў.

— **Субсыдыя для землябробскіх арганізацыяў у Наваградчыне.** Міністэрства землябробства асыгнавала для землябробскіх арганізацыяў Наваградскага ваяводзтва 14. 800 зал. на палепшаньне зямельнае культуры ваяводзтва.

— **Новая каапэратыўная малочная.** 3-га чэрвеня ў Піктушах Ашмянскага пав. адбылася ўрачыстасьць адчыненьня каапэратыўнай малочнай, зарганізаванай Віленскім Ральнічым Таварыствам.

— **Пажарныя курсы.** Ад 1 да 8 ліпня адбудуцца ў Браслаўлі паўторныя курсы афіцэраў пажарных камандаў Браслаўскага павету.

— **Падзел грошаў на адбудову.** Наваградзкі Ваявода п. Бечковіч падзяліў атрыманыя на чэрвень м-ц з Міністэрства Грамадзкіх Работаў крэдыты на адбудову ў наступны спосаб (разам з застаўшыміся крэдытамі за травень б. г.): паветы Слонімскі і Баранавіцкі атрымалі па 50 тысячаў, Наваградзкі — 40 тысячаў, Валожынскі — 30 тысячаў, Лідзкі і Стаўпецкі па 5 тысячаў злотых. Адбудова ўжо пачалася і асабліва шпарка ідзе у Слонімшчыне.

# Карэспандэнцыі.

## Гміна Клецкая.

(Нясьвіскі павет.)

Я, як радны гэтай гміны і як сябра камітэту па справах Самаўрадаў, не магу не сказаць аб тэй працы, якая вядзецца гміннаю Радай, на чале якой стаіць войт п. Баркоўскі. Пасьля ўсякіх дэмагагічных выступленьняў, якія фактычна ўводзіў п. Паўлюкевіч, Рада прышла да нармальнай працы. Атмасфэра пачала асьвяжацца. Той блуд, які быў уведзяны тым-жа п. Паўлюкевічам, стаў ясным доказам тых няпрыемнасьцяў, якія мелі радныя беларусы з боку адміністрацыі. З намі нікто ня лічыўся, нат сяляне ня ўсе галасавалі за беларускі сьпісак, калі даведаліся, што кандыдаты ідуць ў кантакце з п. Паўлюкевічам і гэтым мы утрацілі пэўных два мандаты — замест 8 правялі 6. Але гэта ўжо прайшло. Не дарма кажуць людзі: „Век жыві, век вучыся."

Цяпер крыху скажу аб тым, што Рада зрабіла да гэтага часу, ад 1 красавіка г. г. пры ухваленьні бюджэту Рада ўхваліла перад усім запамогі для Клецкай Беларускай Гімназіі ў лічбе 600 злотых, але п. Староста гэту пазіцыю адхіліў, матывуючы тым, што гэта Гімназія „antypaństwowa." Ня ведаю, што сталася-б далей, калі-б ня той факт, які стаўся пры прыняцьці бюджэту Радаю. Бо якраз у той час прышлі дзьве паперкі, адна ад гімназіі ўрадовай польская з Нясьвіжа, другая з „ochronki", так сама з Нясьвіжа, дзе была просьба аб удзяленьні запамогі для вучняў на выцечку краязнаўчую і гэтакім чынам Рада адмовіла і тым і другім.

На наступным паседжаньні адбыліся выбары камісіі санітарнай і дарожнай. Да першай ўвайшлі камэндант пастарунку п. Рамановіч, доктар районовы, тэхнік і чатырох радных: А. Мікірэй, А. Ковко, Семашка і Янкоўскі. Да камісіі дарожнай — А. Мікірэй, Семашка, Янкоўскі.

Камісія санітарная мае нагляд за чыстасьцяй на тэрэне Гміны пад узглядам гігіенічным. Шарварк сяляне адрабляюць як найсумленьней; нараканьняў няма. Пешы бярэ 2 зл., з падводай 5 злотых. На астатнім з сваіх паседжаньняў Рада пастанавіла выпісаць „тутавых" дзераў і заняцца гадоўляй шаўковых чарвякоў, што дасьць магчымасьць далейшага разьвіцьця гміннай гаспадаркі і гэтым самым заахвоціць сялян да гэтай карыснай справы. Заместа таго, каб пайсьці на вуліцу пасварыцца, ці каго абгаварыць, селянін зразумее гэты карысны для яго чын і спакойна займецца ім. Бо-ж тут няма нічога цяжкага і мудрага, толькі трэба ахвоты.

А гэта ёсьць абавязак усіх радных.

16. VI. 28. г. *Радны.*

## Выбары абвадовага старасты.

(Рэцькаўскага абводу, Беніцкай гм. Маладэчанскага павету).

Дня 31.V.-28 г. у в. Доўгі-Лог па загаду старосты з дня 9.V.—28 № 228/1.IV. адбыліся перавыбары абвадовага старасты Янкі Вагеры, які ўжо некалькі гадоў быў на гэтым становішчы. На выбарах было сабраўшыхся шмат людзей і прыехалі таксама п. войт У. Пжэздомскі, п. сэкрэтар П. Грынкевіч і п. камэндант А. Лаган.

Было выстаўлена 4-ы кандыдатуры: першае мейсца далі для старога старасты Я. Вагера, другое Андрэя Вяль, трэцяга Ігнат Скарынка і чацьвертае—Дахкевіча.

Вынікі галасаваньня наступныя: Вагера Янка атрымаў адзін голас — „шпачка", Андрэй Вяль — 40 галасоў, Ігнат Скарынка 29 галасоў і А. Даткевіч — 2 галасы.

Значыцца грамада выбрала старастай Андрэя Вяля і заступніка Ігната Скарынку. Усе здаліся на іх суменьне, бачучы у іх справядлівасьць суменьня. Пабачым, што пакажа будучына з гэтых новых старастаў, хоць яшчэ не вядома, як паглядзіць староста Маладэчанскі. Мо' яшчэ скасуе, хоць гэта будзе вялікая крыўда для сялян, бо людзі гэтыя ёсьць суменныя, далёка стаяць ад палітыкі і. г. д. А нам такіх і трэба. Што датычыць старога солтыса Я. Вагеры, то хіба нявартa ўспамінаць ні дрэнным словам ні добрым. А калі дзе якія зрабіў памылкі, крыўды (пэўня-ж бяз гэтага ня было, як я ведаю), то няхай пакаецца. А вы малады солтыс, ад гэтага ўсьцерагайцеся і тады шчырая падзяка вам будзе ад вашых выбральнікаў і усяго грамадзянства.

*Ц. Ач.*

# Закон аб павятовым самаўрадзе.

**Распараджэньне Гэнэральнага Камісара Усходніх Зямель, як устаў аб павятовым самаўрадзе.**

(Dz. U. Z. W. Nr.90 poz 1284).

(*Працяг, гл. № 1, 2, і 4 „Бел. Радны*).

§ 47. Калі Соймік ня выбярэ ў акрэсьляным у выканаўчых правілах да гэтага Закону тэрміне Павятовага Аддзелу, тады Аддзел вызначаецца праз Міністэрства на прадстаўленьне ваяводзтва.

§ 48. Старшыня і сябры Аддзелу выконваюць свае абавязкі стала і атрымліваюць пэнсыю з павятовых грошаў. Разьмер гэтае пэнсыі акрэсьлівае Павятовы Соймік перад выбарамі Аддзелу.

§ 49. Сябры Павятовага Аддзелу выбіраюцца на 3 гады. У выпадку звальненьня з пасады ў Аддзеле, на месца вышаўшага сябры Аддзелу ўваходзіць чародны заступнік з гэтага самага сьпіску кандыдатаў. У выпадку нястачы заступнікаў — Соймік робіць дадатковыя выбары.

У такім выпадку сябра Аддзелу выконвае абавязкі толькі да канца паўнамоцтваў сябры, якога ён месца заняў.

§ 50. Выбары старшыні і сяброў Павятовага Аддзелу патрабуе зацьверджаньня надзорчай улады I інстанцыі. У выпадку адмовы ў зацьверджаньні робяцца новыя выбары. Калі-б радныя ізноў выбралі кандыдата, які ня быў зацьверджаны, тады надзорчая ўлада I-ай інстанцыі вызначае Старшыню, ці сябру Аддзелу і вызначаны ўрадуе да тых пор, покуль ня будзе зацьверджаны выбраны кандыдат.

§ 51. Павятовы Аддзел ёсьць кіруючым і выканаўчым органам павятовага самаўрадавага хаўрусу. Спэцыяльна Аддзелу падлягае:

1) падгатоўка справаў, якія маюць быць разгледжаны павятовым Соймікам;

2) выкананьне пастановаў павятовага Сойміку;

3) рашэньне ўсіх справаў, не патрабуючых пастановы павятовага Сойміку, або разгляд якіх Соймік сабе не абгаварыў;

4) апрацоўка рэгуляміну сваей дзейнасьці;

5) выконваньне дысцыплінарнай ўлады над працаўнікамі павятовага самаўрадавага хаўрусу;

6) вызначаньне караў за невыкананьне абавязуючых мясцовых правілаў;

7) выконваньне дзейнасьці, акрэсьлянай уставам.

§ 52. Аддзел можа даручыць падгатоўку справаў, уваходзячых у межы яго дзейнасьці,— паасобным сваім сябрам, або вызначаным праз сябе камісіям. Сябрам камісіі можа быць кожная асоба, якая ёсьць сябрам данага павятовага самаўрадавага хаўрусу.

§ 53. Старшыня Аддзелу ёсьць кіраўніком Аддзелу і яго прадстаўніком. У выпадках надзвычайных Старшыня самастойна выконвае ўсякія чыннасьці, уваходзячыя ў мэты дзейнасьці Аддзелу, аднак-жа павінен на наблізшым паседжаньні Аддзелу дабіцца зацьверджаньня выкананага.

§ 54. Як кіраўнік Аддзелу Старшыня ёсьць Начальнік усіх працаўнікоў павятавага самаўрадавага хаўрусу. Як такі, ён вызначае працаўнікоў і выконвае над імі дысцыплінарную ўладу, вызначаючы ім сваей уладай парадкавыя кары—выгавар ці загану—і ўносячы на рашэньне Аддзелу аб вызначэньні грашовай кары да 100 зл., пераводу працаўніка на пасаду ніжэйшай катэгорыі, а такжа — выдаленьні са службы.

§ 55. Калі Старшыня часова ня можа выконваць сваіх абавязкаў з прычыны хваробы або адсутнасьці, усе яго правы і абавязкі пераходзяць да яго заступніка.

§ 56. Старшыня можа даручаць выкананьне паасобных справаў, належачых да яго компэтэнцыі, свайму заступніку або іншым сябрам Аддзелу. Размяжаваньне чыннасьці паміж сяброў Аддзелу акрэсьлівае рэгулямін.

§ 57. На дзейнасць Аддзелу і паасобных яго сяброў можна прынасіць жалабы ў Павятовы Соймік на рукі Старшыні Сойміку.

§ 58. На паседжаньнях Аддзелу прэзэсуе Старшыня або яго заступнік. Паседжаньні склікаюцца Старшынёй і бываюць правамоцны калі ёсьць прысутных больш паловы сяброў.

§ 59. Пастановы Аддзелу прымаюцца большасьцяй галасоў. У выпадку роўнасьці паданых галасоў пераважае голас Старшыні.

§ 60. Пастановы Аддзелу, якія:

1) ня могуць быць выкананы;

2) могуць прынесьці шкоду жыхарам павету,— на прапазыку Аддзелу, зложаны ў працягу двох тыдняў ад дня іх вынясеньня могуць быць праз Надзорчую ўладу I інстанцыі прытрыманы (zawieszone) і перадаены для новага разгляду Сойміку. Такое самае права маюць Старшыня Павятов. Аддзелу адносна да пастановаў гэтага Аддзелу.

Спорная пастанова Сойміку, або Аддзелу лічыцца за аканчальна прынятую праз адносны павятовы самаўрадавы орган, калі гэтая пастанова будзе прынята на наступным паседжаньні. Пабоч з гэткай пастановай у пратаколе павінна быць зроблена належная агаворка.

(Працяг будзе).



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1